# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUSČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14
**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND" |
|---|---|---|

34 (470) — Нядзеля, 13 верасьня 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


## Саюзьнікі Амэрыкі й падарожжа Хрушчова

Калі нашыя суродзічы чытацьмуць гэтыя радкі, Хрушчоў будзе весьці перамовы з Айзэнгаўэрам у Амэрыцы. Таму варта яшчэ раз спыніцца на нядаўным падарожжы ў Эўропу прэзыдэнта ЗША, на прычынах і выніках гэтага падарожжа.

Як ведаем, вестку аб запросінах Хрушчова ў Задзіночаныя Штаты заходнія краіны, у тым ліку й галоўныя саюзьнікі Амэрыкі, прынялі парознаму. Адны ня ўтойвані свайго задаваленьня; другія, не пярэчачы ў прынцыпе, паставіліся да заплянаванае сустрэчы даволі стрымана і з засьцярогамі; трэйція не стараліся схаваць свайго пераканаьньня, што такая сустрэча можа прынесьці больш шкоды, чымся карысьці. Гэткае球 рознае стаўленьне заходніх саюзьнікаў тлумачыцца цэлым шэрагам аб'ектыўных і суб'ектыўных меркаваньняў і прычынаў.

Дыктатарскія рэжымы ў сваіх дзеяньнях не патрабуюць лічыцца з думкай ні сваіх уласных грамадзян, ні падпарадкаваных ім іншых краінаў. Там існуе штучная аднадумнасьць і супольнасьць інтарэсаў. Таму Хрушчову, перад сваім падарожжам у Амэрыку, ня трэба было раіцца із сваімі сатэлітамі. Ня так выглядае справа ў вольным сьвеце. Таму каардынацыя дзеяньняў ня толькі пажаданая, але й неабходная перад кажнай паважнай падзеяй у міжнароднай палітыцы. Гэта падказвае ня толькі дзяржаўны, але й просты здаровы розум. З такога гледзішча папярэднія перамовы Айзэнгаўэра із галоўнымі саюзьнікамі Амэрыкі былі проста няўхільнымі. Дзевяцідзённае падарожжа Айзэнгаўэра ў Эўропу толькі лішні раз пацьвердзіла гэтую відавочную праўду.

Перад сваім выездам, прэзыдэнт ЗША гэтак азначыў мэты свайго падарожжа: ён мае намер запэўніць саюзьнікаў Амэрыкі, што Задзіночаныя Штаты аддадзеныя справе міру — але міру ганаровага, заснаванага на прынцыпах справядлівасьці; Задзіночаныя Штаты і далей гатовыя даць падтрымку сваім саюзьнікам у эвэнтуальным змаганьні супраць усякага віду агрэсіі — пры неабходнасьці, ужываючы дзеля гэтага сілу. Дзеля таго ЗША будуць і далей захоўваць абаронную магутнасьць, якую вымагаюць меркаваньні супольнае бясьпекі. Айзэнгаўэр заявіў: «Мы ніколі не адступім ад нашых ідэялаў, не адмовімся ад нашых прынцыпаў і ад нашага цьвёрдага, намеру захаваць сваю бясьпеку і адначасна шукаць шляхоў да міру».

Такая заява была патрэбнай і своечасовай. У шмат якіх колах вольнага сьвету панаваў неспакой, што сустрэча Айзэнгаўэра з Хрушчовам можа ператварыцца ў канфэрэнцыю «на найвышэйшым узроўні» двух вялікіх гэтага сьвету, што Айзэнгаўэр, у сваім шчырым імкненьні да міру, можа паддацца ціску Хрушчова й пайсьці за плячыма сваіх саюзьнікаў на ўступкі коштам гэтых саюзьнікаў. Гэты неспакой быў можа й неабгрунтаваны, але зразумелы: ніхто ня хоча паўтору благое памяці Мюнхэну 1938 году, калі вольны сьвет паддаўся ціску Гітлера, і такім чынам, бадай у роўнай меры як СССР пактам Рыбэнтроп-Молатаў, заахвоціў Гітлера пачаць другую сусьветную вайну.

Калі-б у кажнага з заходняэўрапэйскіх саюзьнікаў ня было, апрача гэтага, сваіх спэцыфічных праблемаў і — што з гэтага вынікае — свае спэцыфічнае ацэны йснуючага палажэньня, Айзэнгаўэр мог-бы абмяжавацца заявай, і папярэднія перамовы з саюзьнікамі былі-б можа й непатрэбныя. Перад якімі-ж праблемамі стаяць галоўныя эўрапэйскія партнэры Амэрыкі?

Нямецкая Фэдэратыўная Рэспубліка прынесла вестку аб заплянаваных сустрэчах Хрушчова з Айзэнгаўэрам стрымана — з тае простае прычыны, што яна, фактычна, знаходзілася пад беспасярэднім ціскам Масквы: Хрушчоў не адступае ад сваіх дамаганьняў у справе Бэрліну, ён таксама не зрабіў ніякіх прыймальных прапановаў у заўсёды для Нямеччыны адкідальным пытаньні аб'еднаньня. Таму Адэнаўэр меў права баяцца, што перамовы Айзэнгаўэра з Хрушчовам могуць прывесьці да кампрамісу коштам Нямеччыны. Цяпер, пасьля візыты Айзэнгаўэра ў Боне, можна з упэўненасьцяй сказаць, што сумлевы Адэнаўэра разьвеяліся. У супольным камунікаце пасьля перамоваў гаворыцца, што абодвы дзяржаўныя мужы дыскутавалі праблемы разбраеньня, Бэрліну, аб'еднаньня Нямеччыны і праблемы палітыкі заходняга сьвету ў дачыненьні да Савецкага Саюзу». Але гэта не галоўнае: абодвы дзеячы забавязаліся да далейшага «ўзаемнага супрацоўніцтва абедзьвюх краінаў у рамках Атлянтычнага Саюзу», а Айзэнгаўэр паўтарыў «забавязаньне Задзіночаных Штатаў і іхных саюзьнікаў ахоўваць Бэрлін».

Што тычыцца Англіі, дык найбольшае разыходжаньне паміж Айзэнгаўэрам і Макмілянам — гэта ацэна мэтазгоднасьці нарады чатырох дзяржаваў на «найвышэйшым узроўні». Гэта выразна выявілася ў гутарцы Айзэнгаўэра з Макмілянам у ангельскай тэлевізіі. Макмілян нядвузначна выказаў думку, што ён прыхільнік такое нарады без усякіх папярэдніх умоваў. Айзэнгаўэр-жа літаральна заявіў: «Я ня зьбіраюся браць удзелу ў сустрэчы, якая ў выніку можа толькі выклікаць дэпрэсію й зьнеахвоціць грамадзкасьць. Дзеля таго мы мусім мець нейкія гарантыі плодных вынікаў».

У іншых пытаньнях, як праблема Бэрліну, неабходнасьць узнаўленьня перамоваў аб усеагульным раззбраеньні, у васноўным думкі Айзэнгаўэра й Макміляна не разыходзяцца. Апрача таго — і гэта вельмі важна — Айзэнгаўэр забавязаўся інфармаваць урады саюзных краінаў аб усіх стадыях перамоваў з Хрушчовам і не рабіць ніякіх крокаў без папярэдняй кансультацыі зь імі ў пытаньнях, якія тычацца гэтых краінаў.

У справе мэтазгоднасьці нарады на «найвышэйшым узроўні», паміж францускім прэзыдэнтам дэ Голем няма ніякіх разыходжаньняў. Поўнае адзінства паглядаў пануе таксама ў пытаньні забясьпечаньня свабоды Заходняга Бэрліну, неабходнасьці ўзнаўленьня перамоваў аб раззбраеньні, а таксама ў тым, што Паўночна-Атлянтычны Пакт — гэта аснова абароны й бясьпекі вольнага сьвету. Усё гэта сьцьвярджаецца ў супольным камунікаце.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

## Справа нацыянальнага ўзгадаваньня

Нашыя суродзічы із старэйшага грамадзянства, якія яшчэ на бацькаўшчыне жылі беларускім нацыянальным жыцьцём або й бралі актыўны ўдзел у нацыянальна-грамадзкай дзейнасьці, апынуўшыся на эміграцыі ў вольным сьвеце, зьяўляюцца, паза некаторымі выняткамі, і надалей нацыянальна моцнымі й нацыянальна актыўнымі. Гаворым «паза некаторымі выняткамі», бо частка гэтых людзей, навет і тых, што калісьці прэтэндавалі да кіраўнічых роляў у нашым палітычным, грамадзкім ці культурным руху, сяньня, у пагоні за матарыяльным дабрабытам і асабістымі выгодамі, сталіся бязьдзейнымі й нацыянальна абыякавымі. Нашая эміграцыйная грамадзкасьць гэтых апошніх вельмі трапна празвала «тараканамі ў саладусе». Але ўсё-ж такі яны твораць мізэрную мяншыню і агульнага стану не зьмяняюць.

Затое куды горш стаіць справа з нашай моладзьдзю, якая на бацькаўшчыне яшчэ ня ўсьпела глыбака ўрасьці ў нацыянальную глебу і назапасіць у сваёй сьведамасьці дастаткова нацыянальнага элемэнту, а яшчэ горш з тэй моладзьдзю, якая бацькаўшчыны зусім ня памятае. Зусім не сакрэт, што сярод абедзьвюх групаў моладзі адбываецца даволі шыбкі працэс псыхалягічнай асыміляцыі, а за ёй ідзе ўжо сярод некаторых і асыміляцыя нацыянальная. Каб ня быць галаслоўным, прывяду некалькі фактаў.

Аднэй з найвыразьнейшых праяваў зацікаўленасьці собскімі нацыянальнымі справамі й нацыянальнай актыўнасьці ёсьць пісаньне ў сваю нацыянальную прэсу. Тымчасам у «Бацькаўшчыну» ад часу да часу пішуць людзі із старэйшага грамадзянства, затое з моладзі, за выняткам некалькіх адзінак, якіх можна палічыць на пальцах, дагэтуль ніхто нічога не напісаў. У Нью Ёрку выходзіць часапіс «Беларуская Моладзь», але, як выглядае зь ягонага зьместу, гэта скарэй за ўсё часапіс для моладзі, а не часапіс моладзі. Шырэйшага ўдзелу моладзі ў гэтым часапісе не заўважаецца. Дык ня трэба хіба больш вымоўных довадаў на тое, што нашая моладзь нацыянальна атупела, сталася да нацыянальных праблемаў абыякавай, іншымі словамі, пачала псыхалягічна асымілёўвацца.

Праўда, у большых асяродзьдзях беларускае эміграцыі існуюць спэцыяльныя арганізацыі моладзі, некаторыя зь іх навет даволі актыўныя. Але гэтая актыўнасьць галоўным чынам засяроджваецца на справах чыста таварыскага характару, як спартовыя спаборніцтвы, ладжаньне вечарынаў, экскурсіяў і пад., а ў значна меншай і недастатковай меры на справах нацыянальна-грамадзкіх. Мы не адмаўляем нацыянальнага значаньня разных таварыскіх імпрэзаў, калі яны адбываюцца на базе беларускай. Але гэтага яшчэ далёка недастаткова, каб забясьпечыць поўнае і ўсебаковае нацыянальнае самаўзгадаваньне.

Вельмі загрозьлівым і няпрыемным ёсьць зьявішча, што ладная частка моладзі малодшага веку адвыкае ўжо й гаварыць пабеларуску. Аўтар гэтых радкоў быў сьветкай, як малодшыя сябры Згуртаваньня беларускае моладзі ў Нью Ёрку, зьбраўшыся вечарам на таварыскую зборку, між сабой гаварылі пераважна паангельску. У «Бацькаўшчыне» адноўчы ўспаміналася, што адзін малады Беларус з Канады пісаў у рэдакцыю «Беларускае Моладзі», што выдаецца ў Нью Ёрку, каб часапіс друкаваўся не пабеларуску, але паангельску, бо многія з моладзі ўжо ня могуць чытаць пабеларуску.

Справа беларускасьці нашае моладзі павінна мець для нас першараднае значаньне. Моладзь — гэта тая новая зьмена, якая ў недалёкай ужо будучыні ў нашай нацыянальна-вызвольнай дзейнасьці павінна заняць нашае месца. Таму на справу нацыянальнага ўзгадаваньня нашага маладога пакаленьня павінна быць зьвернутая асаблівая ўвага. Там, дзе ня ў сілах нешта зрабіць моладзь сама, зь ініцыятывай і дапамогай павінны прыйсьці старэйшыя.

Ёсьць многа спосабаў, пры помачы якіх можна зарганізаваць і ажывіць самаўзгадавальную нацыянальную дзейнасьць сярод моладзі. Але тут я хачу падчыркнуць толькі два такія спосабы, на маю думку, найважнейшыя й найбольш эфэктоўныя.

Першым зь іх — гэта беларускае друкаванае слова. Трэба сярод моладзі пашыраць беларускія кніжкі, часапісы й газэты й заахвочваць чытаць іх. Калі Выдавецтва «Бацькаўшчына», ня глядзячы на свае вельмі сьціплыя матарыяльныя магчымасьці, сыстэматычна выдае асобнымі кніжкамі найлепшыя літаратурныя творы нашых клясыкаў, а так-жа творы эміграцыйных пісьменьнікаў, дык у першую чаргу яно мае на ўвеце якраз моладзь.

Тымчасам гэтыя кніжкі, разасланыя па ўсіх нашых асяродзьдзях, часта буцьвеюць дзесьці ў куце ў тых, каму дзеля пашырэньня яны высылаюцца, а да чытачоў мала трапляюць. Прадстаўнік Выдавецтва «Бацькаўшчына» ў Амэрыцы сп. Б. Даніловіч зрабіў прыгожую й карысную ініцыятыву, калі на нядаўна зладжаным пікніку ў Саўт Рывэры зарганізаваў кіёск зь беларускімі кніжка-

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

## Бальшавіцка-расейскі каляніялізм

Пытаньне расейска-бальшавіцкага імпэрыялізму й каляніялізму да гэтага часу яшчэ мала навукова дасьледжанае і ня выкрытае належна перад шырокай сусьветнай грамадзкасьцяй.

Дасюль сьвет ужо часта сустракаўся з паняцьцем «савецкі імпэрыялізм і каляніялізм». Пад ім, звычайна, разумеецца, што Савецкі Саюз, як адна палітычная й эканамічная цэласьць, паняволвае й эксплёатуе іншыя народы савецкага блёку. Аднак якія палітычныя, эканамічныя й культурныя ўзаемадачыненьні існуюць унутры самога Савецкага Саюзу, паміж складовымі часткамі Саюзу — народамі й рэспублікамі, — сьвет меў і мае слабае ўяўленьне. Да гэтага спрычыняецца ў першую чаргу камуністычная прапаганда, якая ўсё ў Савецкім Саюзе паказвае ў найбольш ідылічным выглядзе і, з другога боку, старannае прамоўчваньне і замаскоўваньне гэтай прапагандай дадзеных аб адмоўных баках бальшавіцкае сыстэмы.

Раўнапраўнасьць жыхароў і рэспублікаў Савецкага Саюзу — гэта адзін з пашыраных бальшавіцкіх прапагандовых лёзунгаў. Пад гэтым разумеецца ня толькі палітычная раўнапраўнасьць, але й тое, што саюзныя рэспублікі й іхнае насельніцтва ў воднолькавай меры карыстаюцца матарыяльнымі багацьцямі Саюзу. Пакінем збоку хвальшывыя бальшавіцкія цьверджаньні аб палітычнай раўнапраўнасьці. Спынімся на тым, наколькі гэтыя цьверджаньні праўдзівыя ў гаспадарскім дачыненьні.

У гэтым найлепш можна пераканацца параўнаўшы адпаведныя лікавыя дадзеныя. Аднак у СССР супастаўленьні статыстычных дадзеных аб гаспадарскім стане паасобных савецкіх рэспублік і матарыяльным палажэньні іхных жыхароў ніколі ня публікуюцца. Ужо гэты факт гаворыць вельмі шмат.

Таму вялікую цікавасьць і вартасьць мае выдадзеная нядаўна Інстытутам Вывучэньня СССР у ўкраінскай мове кніга ўкраінскага эміграцыйнага навукоўца Д. Ф. Салаўя пад назовам «Украіна ў сыстэме савецкага каляніялізму».

Пазнаёмім нашых чытачоў зь некаторымі вылічэньнямі, параўнаньнямі й высновамі, пададзенымі ў прыгаданай кнізе.

Аўтар кнігі зьвяртае галоўную ўвагу на палітычнае й эканамічнае палажэньне Украіны ў савецкай імпэрыі. Аднак ён падае таксама цікавыя дадзеныя аб эканамічным становішчы ўсіх іншых нерасейскіх рэспублік, у тым ліку й БССР, у параўнаньні з эканамічным становішчам РСФСР.

Правёўшы старанны аналіз савецкіх афіцыйных статыстычных дадзеных і зрабіўшы адпаведныя вылічэньні, аўтар на канкрэтных фактах выкрывае дыскрымінацыйную палітыку ЦК КПСС у дачыненьні да ўсіх нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу, якая, паводля аўтара, зьяўляецца працягам каляніяльнай палітыкі царскай Расеі.

У якасьці доказу дыскрымінацыйнай, каляніяльнай палітыкі ЦК КПСС у дачыненьні да нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу аўтар падае палітыку капіталаўкладаў у народную гаспадарку паасобных савецкіх рэспублікаў. Праналізаваўшы дадзеныя, узятыя з савецкіх афіцыйных крыніцаў, аўтар кнігі прыходзіць да выснаву, што за ўвесь час ад 1918 да 1955 году ўсе 14 нерасейскіх рэспублікаў СССР на адну асобу свайго насельніцтва атрымалі ў сярэднім толькі 63,9% тых капіталаўкладаў, якія атрымала РСФСР на адну асобу свайго насельніцтва. Гэта значыць, што за ўвесь гэты пэрыяд усе нерасейскія рэспублікі атрымалі з супольнай дзяржаўнай касы на 36,1% менш, чымся РСФСР. Аўтар пры гэтым зазначае, што ўдзельная вага жыхароў розных рэспублікаў у тварэньні матарыяльных багацьцяў Савецкага Саюзу прыблізна аднолькавая. Такім чынам, недаданыя нерасейскім рэспублікам фінансавыя сяродкі былі перададзеныя на разбудову гаспадарскай магутнасьці Расейскай Фэдэрацыі. А гэта сьветчыць аб тым, што савецкія рэспублікі не ў ваднолькавай ступені карыстаюцца створанымі імі матарыяльнымі багацьцямі і што няроўнасьць нацыяў у Савецкім Саюзе зусім не зьліквідаваная!

Аўтар прыгаданай кнігі даводзіць гэта й на іншых прыкладах.

На аснове аналізу савецкіх статыстычных дадзеных што да розьнічнага гандлю, пакупной здольнасьці насельніцтва, ашчаднасьцяў насельніцтва ў дзяржаўных касах і іншых афіцыйных дадзеных ён сьцьвярджае, што жыцьцёвы ўзровень народаў усіх нерасейскіх рэспублікаў у параўнаньні з жыцьцёвым узроўнем насельніцтва РСФСР ніжэйшы больш, як на 31 працэнт.

Аўтар кнігі сьцьвярджае таксама, што гэтая дыскрымінацыйная палітыка ЦК КПСС у дачыненьні да нерасейскіх народаў сталася магчымай дзякуючы поўнай цэнтралізацыі гаспадарскага пляваньня і канцэнтрацыі фінансаў у руках маскоўскіх партыйных і гаспадарскіх органаў.

Аўтар сьцьвярджае, што каляніяльны характар бальшавіцкай эканамічнай палітыкі ўнутры самога СССР палягае ў тым, што матарыяльныя сяродкі награмаджваныя ўсім насельніцтвам Савецкага Саюзу, накіроўваюцца партыяй для хуткай разбудовы ўсіх галінаў прамысловасьці Расейскай Фэдэрацыі, а эканоміка нерасейскіх рэспублікаў плянавым парадкам ператвараецца у сыравінны дадатак да прамысловасьці РСФСР.

Д. Ф. Салавей піша: «Плянуючы ўсё ў цэлым Саюзе, сканцэнтроўваючы ў сваім манапольным распараджаньні сяродкі ды матарыяльныя й грашовыя рэсурсы ўсіх народаў, ЦК КПСС выкарыстоўвае іх для таго, каб паставіць РСФСР ў цэлым у значна лепшае і ўпрывілеяванае бытовае й эканамічнае становішча ў параўнаньні зь іншымі рэспублікамі СССР. Ён (ЦК КПСС) вырашыў яшчэ ў васобе Сталіна шукаць сабе апоры для сваёй дыктатарскай улады ў «русском народе», як «руководящем народе» (тост Сталіна ўвосені 1945 г.), каб, ствараючы яму ўпрывілеяванае становішча ў Саюзе, заўсёды мець за сабой ягоную падтрымку ў змаганьні з адцэнтравымі эманцыпацыйнымі рухамі каляніяльных народаў СССР.»

На заканчэньне сваей кнігі «Украіна ў сыстэме савецкага каляніялізму» аўтар робіць такі вывад: «Лёгіка палітыкі дыктатуры ЦК КПСС, вынікі якой мы бачылі тут на шматлікіх прыкладах, абапёртых на афіцыйных крыніцах, зусім відавочная: жандары й турэмныя вартаўнікі павінны мець параўнаўча значна лепшыя ўмовы жыцьця за вязьняў, якіх яны пільнуюць. Бо йнакш паміж імі можа лёгка стварыцца паразуменьне й супольнасьць дзеяньняў супраць дыктатуры.»

**АГ — ЮД**

# Палітыка Кітаю

Надзвычайны Пленум ЦК кітайскай камуністычнай партыі, які трываў два тыдні, апублікаваў камунікат, у якім былі наступныя галоўныя пункты: папершае, кіраўніцтва камуністычнай партыі Кітаю прызнала, што вытворчыя пляны на гэты год ня будуць выкананыя; падругое — яно прызнала, што апублікаваныя ў свой час паказьнікі вытворчасьці народнай гаспадаркі за 1958 год былі завышаныя; патрэйцяе, у камунікаце было прызнаньне, што ўвядзеньне сыстэмы гэтак званых «народных камунаў» не дало пажаданых вынікаў, інакш кажучы — што гэтая сыстэма правалілася.

Вось, у кароткіх словах, сутнасьць гэтага камунізму. Каб ясна ўявіць убесь абраз існуючага палажэньня, вернемся да 1957 году. Прыгадваецца адна думка, выказаная ў той час пажылым кандыдатам эканамічных навук, уцекачом зь Кітаю, прозьвішча якога із зразумелых прычынаў назваць тут нельга, і які пражыў у Кітаі каля сарака год. Ён сказаў:

«У такія гарады, як Харбін, Мукдэн, Дайрэн, Пэкін, Шанхай і Цяньцьдзін перасялілася нязьлічоная маса кітайскай моладзі зь вёсак. Для іх жыцьцё ў горадзе, пасьля вясковага жыцьця, гэта рай. Гэта маса новых жыхароў гораду, якія сталіся работнікамі на заводах, рамесьнікамі ў майстэрнях, студэнтамі і ўрадоўцамі дзяржаўнага апарату; гэтая маса — галоўная апора кітайскай кампартыі. Насельніцтва сельскіх раёнаў краіны пэкінскаму ураду не спачувае і настроенае супраць яго. Усё больш расьце незадаваленьне кітайскіх сялян палітыкай партыйнай верхавіны, якая адабрала ў іх ініцыятыву і асабістую зацікаўленасьць».

І тут уцякач зь Кітаю сказаў наступную фразу: «Калі пэкінскае кіраўніцтва ня зробіць тэрміновых захадаў, дык кітайскае сялянства актыўна выступіць супраць кампартыі».

Прайшло некалькі месяцаў, і давялося прыгадаць гэтыя словы. Папершае, паўстаньне сялянаў у паасобных раёнах краіны сталіся штораз часьцейшымі; падругое, пэкінскі ўрад пачаў падрыхтоўку да ўвядзеньня сыстэмы гэтак званых «народных камунаў». У сельскія раёны былі пасланыя кадры актывістых і прапагандыстых дзеля падрыхтоўкі сялянства да «народных камунаў». Прыгадаем гэтую падрыхтоўчую кампанію кітайскага партыйнага кіраўніцтва. Гаварылася аб «скачку наперад», гэта значыць — аб крутым уздыме вытворчасьці ўсіх галінаў народнай гаспадаркі. Пры гэтым гаварылася, што ўсё гэта павінна быць дасягнутае «сваімі айчыннымі мэтадамі», што фактычна азначала вытворчасьць на месцах або «саматужніцтва». Гаварылася аб «замежных імпэрыялістых» і аб тым, што «кажны кітайскі грамадзянін — жаўнер у змаганьні супраць імпэрыялізму».

Крыху пазьней было абвешчана аб увядзеньні «народных камунаў». Народныя камуны павінны былі прывесьці да «камунізацыі эканамічнага жыцьця краіны» і гэтым самым яны як быццам зьяўляліся «найкарацейшым шляхам да пабудовы камунізму». Аб народных камунах мы гаварылі ўжо ня раз, і цяпер дастаткова толькі сказаць, што ўводзячы сыстэму «народных камунаў», кітайскае партыйнае кіраўніцтва спадзявалася шляхам «мілітарызацыі» эканомікі ўзмоцніць свой кантроль над насельніцтвам, галоўным чынам — над насельніцтвам сельскіх раёнаў. Прыгадаем падзел сем'яў, казармавае жыцьцё, разьмеркаваньне зброі, біццам-бы, паміж насельніцтва, а фактычна толькі паміж кадраў актывістых, стратэгічна раськіданых па ўсёй краіне.

«Кажны кітайскі грамадзянін — жаўнер у змаганьні супраць імпэрыялізму».. Але дзе-ж гэтае змаганьне? На гэтае пытаньне Мао Цзэ-дун знайшоў вельмі просты адказ: 23-га жнівеня 1958 году берагавыя батарэіФуцьзяньскага фронту пачалі абстрэл прыбярэжных астравоў... абтокаў Цьзіньмындао і Мацзу. У тыя дні ў камуністычным Кітаі штучна разьдзьмухоўвалася значэньне падзеяў у Тайваньскай пратоцы. Гаварылася аб агрэсіі Нацыянальнага ўраду на Тайвані і з боку Амэрыкі. Такім чынам, «кажны кітайскі грамадзянін — жаўнер у змаганьні супраць імпэрыялізму і агрэсіі ў Тайваньскай пратоцы».

У доказ гэтых меркаваньняў падамо некалькі цытатаў зь кітайскага камуністычнага часапісу «Сіньхуа Бань-юэкань». У вапошнім нумары гэтага часапісу, які быў прывезены нелегальна ў Гонконг, зьмешчаны артыкул генэраллейтэнанта Ду Піна аб мэтадах вядзеньня войнаў, распрацаваных Мао-Цзэ-дунам. Ду Пін піша: «Палітыка Мао Цзэдуна ўвосені мінулага году ў дачыненьні да ваенных апэрацыяў на Фуцьдзяньскім фронце — бліскучы прыклад падпарадкаваньня ваенных апэрацыяў прынцыпам палітычнага змаганьня». Ён дадае, што пастанова Пэкіну абстрэльваць прыбярэжныя абтокі праз дзень, і гэтым самым даваць магчымасьць гарнізонам абтокаў атрымоўваць харчаваньне і амуніцыю шмат каго зьдзівіла, але цяпер усім зразумела — і тут мы цытуем — «што бітвы, у якіх мы бралі ўдзел, фактычна былі палітычным змаганьнем».

Інакш кажучы, генэрал-лейтэнант Ду Пін цьвердзіць, што камуністычны ўрад зацягваў канфлікт у Тайваньскай пратоцы дзеля таго, каб апраўдаць «мілітарызацыю жыцьця ў краіне», што давала яму магчымасьць замацоўваць свой кантроль над насельніцтвам. Адначасна Пэкін выпрабоўваў зброю, сваю авіяцыю і артылерыю. Але паўстаньне ў Тыбэце, у Сіньцьзяне, Сычуані і ў раёнах Ганьсу і Цінхай, незадаваленьне насельніцтва «народнымі камунамі», тайфуны, паводкі і засуха парушылі пляны пэкінскага кіраўніцтва аб мілітарызацыі жыцьця ў краіне. Сыстэма камунаў правалілася — да гэтага ЦК кітайськай кампартыі прызнаўся ў камунікаце, апублікаваным пасьля Пленуму ЦК ў Люшані.

Цяпер паўстаюць пытаньні: чаму Мао Цзэ-дун і Лю-Шао-цы прызналі правал свае нутранае палітыкі? Чаму партыйнае кіраўніцтва абвесьціла гэта якраз цяпер, і калі антаганізм насельніцтва яшчэ больш завайстрыўся, што можа зрабіць партыйная верхавіна, каб замацаваць свае палажэньне?

Рана ці позна, кіраўніцтва кітайскай кампартыі павінна было прызнаць правал свае палітыкі. Працягваць яе далей яно не магло. Зусім відавочна, што на Пленуме ЦК ў Люшані было пастаноўлена прызнаць памылкі якраз цяпер, таму што насельніцтва, якое яшчэ не ачуняла ад стыхійных бедаў, хіба паверыць заявам, зробленым у камунікаце, што зьменшаньне пляну і нястача прадметаў першай патрэбы тлумачацца, галоўным чынам, стыхійнымі бедамі. Заўвага-ж, што сыстэма «народных камунаў» не дала пажаданых вынікаў — гэта сваеасаблівае абяцаньне аб зьменах на лепшае. Вось чаму ўсё гэта і было абвешчанае якраз цяпер.

Але гэта не адказвае на пытаньне: якая будзе далейшая палітыка кітайскага партыйнага кіраўніцтва? Адказу на гэтае пытаньне трэба шукаць не ў камунікаце жнівеньскага Пленуму ЦК кітайскай кампартыі, а ў падзеях ў паўдзённа-ўсходняй Азіі.

Падзеі ў Ляосе даюць нам магчымасьць да пэўнай ступені прадбачыць намеры пэкінскага кіраўніцтва. Няма сумлеву, што выступленьне ляоскіх камуністых адбываецца ня толькі із згоды пэкінскага ўраду, але фактычна яно ім пачатае. Але што гэтыя падзеі ў Ляосе могуць прынесьці пэкінскаму кіраўніцтву? У выпадку няўдачы, гэта значыць — у выпадку разгрому ляоскіх паўстанцаў, Пэкін нічым не рызыкуе. Ляоскія партызаны-камуністыя і іхныя «памочнікі» адступаюць або ў Паўночны Ветнам, або ў кітайскую правінцыю Юньнань, якая мяжуе зь Ляосам.

Але калі ўрад Ляосу разгроміць паўстанцаў пры дапамозе звонку, гэта значыць пры дапамозе абароннага Саюзу краінаў Паўдзённа-ўсходняй Азіі, або Злучаных Штатаў — у гэтым выпадку Пэкін атрымае магчымасьць зноў гаварыць аб «імпэрыялістых і агрэсарах» і нажыць на гэтым палітычны капітал. У такім выпадку, камуністычнае кіраўніцтва Кітаю бясспрэчна вернецца да пляну «мілітарызацыі жыцьця ў краіне». Падзеі ў Ляосе — гэта «палітычная разьведка боем», якую робіць Пэкін чужымі рукамі.

Цяпер разгледзім другую магчымасьць. Прыпусьцім, што паўстаньне ў Ляосе выкліча ўпадак ляоскага ўраду і ўстанаўленьне там панаваньня камуністычнага Кітаю. У гэтым выпадку пэкінскі ўрад атрымае эканамічны прыз — краіну, багатую сельска-гаспадарскай прадукцыяй, якую патрабуе Кітай дзеля ўціхаміраньня свайго насельніцтва.

**Р. С.**

# Справа нацыянальнага ўзгадаваньня

**(Заканчэньне зь 1-ае бачыны)**

мі й заахвочваў прысутных іх купляць. Прыклад годны насьледаваньня! Каб пашыраць беларускія кніжкі, мала адно гаварыць, што яны ёсьць для набыцьця, а патрэбнае яшчэ й назойлівае прапагаваньне кніжкі й адпаведны спосаб яе прадажы.

Маючы наўвеце нашых наймалодшых, Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» ад даўжэйшага часу выдае спэцыяльны ілюстраваны часапіс для дзяцей «Калаські». Але, як сьцьверджана, гэты цікавы й добра рэдагаваны часапіс больш чытаюць узрослыя, чымся дзеці й падрастаючая моладзь. Тут узноў патрэбнае ўмелае заахвочваньне, каб узбудзіць зацікаўленьне й любоў да роднага друкаванага слова.

Другім важным спосабам нацыянальнага ўзгадваньня, у гэтым выпадку наймалодшых, ёсьць суботнія або нядзельныя школы беларускай грамады й беларусаведы, якія наведваюць вучні Беларусы із іншамоўных школаў краінаў свайго пасяленьня. Прыкладам у Амэрыцы у кажным большым беларускім асяродзьдзі, як Нью Ёрк, Чыкага, Кліўлэнд, Саўт Рывэр, Нью Брасьвік і г. д., такія школы існуюць. Але, як мне асабіста ў канцы мінулага году давялося сьцьвердзіць, гэтыя школы наведвае вельмі малая колькасьць вучняў. Тут ужо вылучная віна бацькоў, якія не дацэньваюць справы нацыянальнага ўзгадаваньня. Нашыя арганізацыі й паасобныя нацыянальныя працаўнікі павінны ў гэтай галіне праявіць максімум актыўнасьці, каб пераканаць бацькаў аб неабходнай патрэбе навучаньня іхных дзяцей беларускай граматы. Цяпер, з пачаткам новага навучальнага году, справа гэтая зьяўляецца асабліва актуальнай.

Перад намі ў вольным сьвеце ёсьць вельмі шмат нацыянальных абавязкаў і заданьняў. Кажны з нас павінен выконваць усё тое, да чаго ён пачуваецца найбольш здольным і прыгатаваным. А спасярод гэтых абавязкаў і заданьняў адно зь першых месцаў павінна заняць справа нацыянальнага ўзгадаваньня нашага маладога пакаленьня.

**Ст. Крушыніч**

# Саюзьнікі Амэрыкі...

**(Заканчэньне зь 1-ае бачыны)**

Гэта, аднак, не азначае, што паміж Францыяй і іншымі саюзьнікамі няма разыходжаньняў. Папершае дэ Голь дамагаецца ад сваіх саюзьнікаў падтрыманьня ягонай палітыкі ў Альжыры. Апрача таго, ён уважае, што з Францыяй замала лічацца пры прыйманьні пастановаў стратэгічнага характару ў НАТО, што сустрэча Айзэнгаўэр-Хрушчоў на парадку дня перамоваў не стаяла, бо дэ Голь уважае яе чыста амэрыканска-савецкай справай. Гэтым ён выказаў сваё незадаваленьне тым фактам, што зь ім ня раіліся аб мэтазгоднасьці такое сустрэчы.

Сказаць, што пасьля падарожжа Айзэнгаўэра ў Эўропу паміж саюзьнікамі не асталося ні ценю разыходжаньняў, было-б вялікім перабольшаньнем.

І таму хацелася-б верыць газэце «Нью-Ёрк Гэральд Трыбюн», якая 3-га верасьня пісала: «Можна бачыць тое, што нас дзеліць — розьніца ў падкрэсьліваньні паасобных праблемаў, іхнага пяршынства й падыходу да іх. Але мы не павінны ня бачыць яшчэ большых сілаў, якія нас задзіночваюць. Мы сяньня гэтак-жа задзіночаныя, як учора, і як будзем заўтра».

**У. Н.**

## ДЭЛЕГАЦЫЯ «ПАРЫСКАГА БЛЁКУ» Ў ВАШЫНГТОНЕ

У сувязі з прынятай рэзалюцыяй у Кангрэсе Задзіночаных Штатаў Амэрыкі і праклямацыяй «Тыдня Паняволеных Народаў» Прэзыдэнтам ЗША, дэлегацыя Ньюёрскай Камісіі Лігі Вызваленьня Народаў СССР (Парыскага Блёку) ў складзе сп. сп. Д-ра С. Вытвыцкага, К. Меряка й Б. Глазкова была прынятая 3-га жніўня сёлета асыстэнтам дзяржаўнага сакратара сп. Барбур, церазь якога дэлегацыя выказала глыбокую ўдзячнасьць Прэзыдэнту Айзэнгаўэру й дзяржаўнаму сакратару Гэртэру за выдадзеную праклямацыю. Сп. Барбур запэўніў, што ён гэта перадасьць Прэзыдэнту й дзяржаўнаму сакратару.

Пры гэтай нагодзе былі абгавораныя й іншыя справы паняволеных бальшавізмам народаў.

Сп. Мерляк спаткаўся із сэнатарам Кэннэт Кітынг і кангрэсмэнам Францiс Дорн, а таксама меў гутарку ў Юнайтыд Стэйтс Інформэйшн Эйджэнсі ў справе перадачаў у беларускай мове цераз Голас Амэрыкі.

**Ант. Адамовіч** 4)

# Наш Багдановіч

Што да эпіграфаў, дык тут найперш давялося пааднаўляць пропускі, хіба выпадковыя, дапушчаныя ў іншых выданьнях (так, у Інбелкультаўскім выданьні прапушчаны другі — францускі эпіграф да разьдзелу «Вянка» — «Думы», а эпіграф да разьдзелу «Старая спадчына» аднесены не да ўсяго разьдзелу, а толькі да ягонага першага вершу; у вапошнім менскім выданьні Акадэміі Навук БССР ня толькі паўторана ўсё гэта, але яшчэ й прапушчаны нямецкі эпіграф з Гайнэ да разьдзелу «Вольныя думы»). Далей, выкананая воля аўтарава што да эпіграфаў у перакладах з Вэрлена, а таксама эпіграфы да вершаў пра Аню «Палын-трава» дадзеныя там, дзе яны былі ў рукапісе, хоць Інбелкультаўскае выданьне падало іх толькі ў «Увагах». Для «падручнага выданьня» выдалася дамэтным даць і беларускія пераклады іншамоўных неславянскіх эпіграфаў (у «Вянку» быў перакладзены адзін толькі італьянскі эпіграф да «Вэранікі»; у вапошнім менскім выданьні перакладзеныя ўсе эпіграфы за выняткам «общепонятных» расейскіх; нам давялося ўсе пераклады выверыць і ладна перарабіць, бо ані ў вапошнім менскім выданьні , ані калісь у артыкуле пра «Вянок», як кнігу лірыкі, у «Узвышшы», № 2 за 1927 г., пераклады ня былі зробленыя зусім акуратна).

Даты мы стараліся ўстанаўляць для кажнага твору й падавалі іх у канцы, па тэксьце. Апошняе менскае выданьне Акадэміі Навук БССР дало магчымасьць перагледзець ды ўдакладніць некаторыя зь іх, як таксама аказалася яно карысным для выверваньня тэкстаў, друкаваных за жыцьцём аўтара й пасьлей, да Інбелкультаўскага выданьня.

Гэтак выглядаюць асноўныя асаблівасьці гэтташняга выданьня, гэтае «падручнае кнігі творчасьці паэты для беларускага эмігранта» — гэтага **нашага Багдановіча.** Гэтае «наш» — гэтае «мы» — мае за сабою дзьве інстытуцыі — Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды выдавецтва «Бацькаўшчына». Іхная тут агульная праца, іхная й агульная адказнасьць. Адказнасьць-жа індывідуальную нясуць імі вылучаныя рэдактары — д-р Станіслаў Станкевіч ды ніжэй падпісаны. Яны-ж пачуваюцца да абавязку вылучыць зь іншых выказаньнем свае ўдзячнасьці за бязьітарасоўную дапамогу д-ра Вітаўта Тумаша, што ўсьцяж служыў інсьпірацыяй, дарадамі й матар'яламі (згадваны вышэй тэкст «Апокрыфа» з «Крывіча», апошняе менскае выданьне Акадэміі Навук БССР, яшчэ й цяпер ня ўсюды за межамі савецкімі прыступное) ды мгр. Янку Запрудніка, што выканаў часа- й працаёмкую справу капіяваньня тэкстаў да выданьня. Нажаль, толькі без успамінаньня прозьвішчаў можна выказаць падзяку сябром, што ўпрыступнілі сваім часам карыстаньне некаторымі паэтавымі рукапісамі, як вышэй зазначана, а таксама агульную й хіба ўсіхную ўдзячнасьць сьціплым працаўнікам (сярод якіх, — прыемна ўспамінаныя калішнія костудэнты зь Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту), што спрычыніліся да публікацыі апошнімі гадамі незаўважаных твораў ды іншых каштоўных матар'ялаў аднаго з найбольшых — а спалучэньнем нацыянальнага з сусьветным і найбольшага дасюль беларускага паэты-клясыка ў поўным ды ўсеабсяжным сэньсе апошняга слова.

**Ант. Адамовіч**

Канец



**Максім Багдановіч**

# Качулка

Гэтае вялікоднае ночы Васілька прыйшоў з царквы дамоў усхваляваны, рашчулены й шчасьлівы. Праўда, гэтаксама чуліся і ўсе хатнія — і мама, і брацітка Сяргейка, і нянька Вульляна, ды Васілька меў на гэта й адмысловыя прычыны. Пачалося ад таго, што сустрэўшыся зь ім у Кірылы й Мэтода (гэтак звалася гімназіяльная царква) настаўнік — «матэматык» прыдакляраваў перавесьці яго ў другую клясу без эгзаміну, узяўшы ад яго слова займацца. Значыцца, Васілька ўжо бадай другаклясьнік. Пасьля калі ён выйшаў з талерачкай, Зося паклала яму срыбную манэтку, папрасіла рэшты й вельмі міла зачырванелася, дастаўшы яе загадзя прызапашанымі навюсенькімі капеечкамі; гэта-ж уважалася за знак «далікатных пачуцьцяў». Нарэшце, хрыстосваючыся ў царкве з Васількам, цёця Таця дастала з кошычка й падаравала яму яечка — «качулку» — зусім блізу што круглае, няначы мечык. Вось дзе будзе ўдача, калі ён заўтра выйдзе зь ёй качаць яйкі!

І цяпер, калі Васілька, лежучы ў пасьцелі й засыпаючы, праз дрэмку ўспамінаў ласкавую цемнеч вялікоднае ночы, магутны, але мяккі гуд вялікага звону, вясёлы перазвон меншых, радаснае пяяньне, агнялёты, што з трэскам узьлётвалі ды, праблісканеўшы калярыстымі агнямі, рассыпаліся ў вышыні, дзівоснае палыханьне чырвонага бэнгальскага агню вакол белае царквы, зьнізанае загатлівымі лямпкамі, — яму ўсё ўспаміналася, ды ніяк прыпомніцца не магло яшчэ нешта радаснае й прыемнае. «Ага, качулка!» — мільганула нарэшце ў яго галаве — і з гэтай думкай ён заснуў.

А нараньні Васілька быў ужо на суседнім панадворку, правы бераг якога, падыходзячы да саду, пахона спушчаўся спадам на абодвы бакі, дзеля чаго сюды мала ня з усяе вуліцы зьбіралася малеча качаць яйкі. Дзень задаўся сонечны, пагодны, і панадворкам на сонейку ўжо тулялася колькі грудкоў дзятвы, — хто ў лёгенькім палітончыку нарасхліст, а хто й проста ў уніформным кульку ці каляровай кашулі, — вядучы тымчасам гутаркі пра нязвычайныя якасьці прызначаных качаць яёк.

— Восьдзека ў мяне яечка, дык яечка! Проста бітка! Тупаносенькае.

— Сам ты, браце, тупаносенькі. Ты глянь, што ў яго за шалупіна? Як стукнецца аб другое — тутака тваёй бітцы й канцы. Напэўнечкі разаб'ецца. А во ў майго шалупіна — як у какоснага гарэха! Ты памацай, якое шурпатае.

— А я летась, памятаю, як пачаў качаць мечыкам на поўным коне — па шэсьць яёк узапар выкочваў. Во й Андрук бачыў, ня дасьць схлусіць. Праўда-ж?

Але Андрук, круткі, чарнявы хлапчына, не адказваючы, паварочваецца й крычыць:

— Пачынаць, ці што?

— Пачынаць! Чотавацца! Чотавацца!

Хлопцы стаюць у круг. Чотуе ўсё той-жа Андрук, страх акалічных садоў і прызнаны верхавод (як кажацца, «завадатай») усялякіх гульняў. Торкаючы пачародна кажнаму ў грудзі пальцам, ён адрывіста мармыча:

— Коціцца яблычак каля гароду;
Хто яго пяройме — будзе за вайводу.
— Шышла выйшла,
Радзівон — ідзі вон!

Тыя, каму дастаецца качаць у ліку першых, куксяцца; было-б выгадней быць пасьля, калі на коне назьбіраецца больш яёк. Таму ўсе ўважна сочаць, каб Андрук не змахляваў. Нарэшце, яму дакучае мамрыць адны й тыя словы, і ён пачынае на новы лад:

— Паміж намі, малайцамі...
Хтось адзін вялікі боўць.
Раз, два, тры...

# Зь беларускага жыцьця

### КААРДЫНАЦЫЙНАЕ ПАСЕДЖАНЬНЕ

23-га жніўня сёлета, а гадз. 12,30 удзень, у памешканьні БАЗА адбылося, скліканае зь ініцыятывы Галоўнае Управы БАЗА, паседжаньне Управы й прадстаўнікоў беларускіх рэлігійных, культурных і грамадзкіх арганізацыяў, прысьвечанае справе каардынацыі дзейнасьці беларускіх арганізацыяў на будучыню дзеля лепшых вынікаў у працы.

Паседжаньне адчыніў старшыня Галоўнае Ўправы БАЗА сп. Мярляк. Прывітаўшы прысутных, ён у кароткіх словах паведаміў аб мэце скліканьня сходу. На сход былі запрошаныя прадстаўнікі ад гэткіх беларускіх арганізацыяў: Царкоўнай Рады Парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку, Царкоўнай Рады Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Нью-Брансьвіку, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Галоўнай і Акруговай управы Беларускага Жаночага Згуртаваньня, Акругі БАЗА Нью-Ёрк і аддзелу БАЗА Саўт-Рывэр — Нью-Брансьвік, Галоўнага й Акруговага Кіраўніцтва ЗБМ, Акадэміцкага Таварыства й Беларускае Дапамогі. Галоўная Управа БАЗА была прысутная на сходзе ў поўным складзе.

Мэта скліканьня сходу знайшла жывы водгук у ўсіх згаданых прадстаўнікоў, бо ўсе разумелі патрэбу скаардынаваньня працы шматлікіх беларускіх арганізацыяў Нью-Ёрку й ваколіцы, зь якіх кажная мае розныя заданьні й розныя тэарэтычныя падставы, з тым, каб адна аднэй дапамагала, а не перашкаджала ў працы.

Пасьля дыскусіі, было пастаноўлена скласьці сяньня-ж каляндар галоўных імпрэзаў, заплянаваных паасобнымі беларускімі арганізацыямі на бягучы год. Гэткі, прыблізны, каляндар і быў складзены і ўзгоднены ўсімі прысутнымі на сходзе прадстаўнікамі, за вылучэньнем беларускае моладзі, якія пакінулі паседжаньне, бо сьпяшаліся на выступленьне танцавальнага гуртка ЗБМ, які меў танцаваць гэтага-ж дня ў Цэнтральным Парку.

Пасьля ўзгадненьня пляну імпрэзаў на будучыню, быў абмяркаваны шэраг іншых справаў, прыкладам, справа выданьня адмысловае невялікае брашуры ў ангельскай мове ў сувязі із прыездам Хрушчова, у якой было-б прадстаўленае палажэньне беларускага народу сяньня на Бацькаўшчыне й паданае да ведама амэрыканскага грамадзтва тое, што за апошнія гады ў Беларусі вынішчана аж 3 мільёны жыхарства, што Хрушчоў праводзіць там сяньня выразную каляніяльную палітыку й г. д. Брашура гэтая мае быць разасланая шырокім колам амэрыканскіх палітыкаў і дзеячоў і рэдакцыям амэрыканскіх газэтаў ды часапісаў, далучаючы да яе адмысловы Прэсавы Камунікат, напярэдадні прыезду Хрушчова ў ЗША.

Пры канцы паседжаньня была абмяркаваная справа сьвяткаваньня Ўгодкаў Незалежнасьці (25 Сакавіка).

### УГОДКІ СУМЛЕННАЕ ПРАЦЫ

У сыботу 22-га жніўня аддзел БАЗА Саўт-Рывэр — Нью-Брансьвік ушанаваў сьціплаю бяседаю ў грамадзе сяброў 40-ыя ўгодкі сьвятарскае працы Мітрафорнага Пратаярэя а. Сьцяпана Войтанкі й 50-ыя ўгодкі настаўніцкае працы сп. Філярэта Родзькі, кіраўніка беларускае школы БАЗА ў Нью-Брансьвіку.

Галоўная Ўправа БАЗА шчыра вітае шаноўных юбіляраў і жадае ім яшчэ доўгіх год працы на карысьць Бацькаўшчыны-Беларусі, здароўя і удачаў у жыцьці.



**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

### БЕЛАРУСЫ НА ВЭТЭРАНСКІМ ПАРАДЗЕ

На сёлетняй Канадыйскай Нацыянальнай Выстаўцы, якая адбылася ў днях 26 жніўня — 12 верасьня ў Таронто, абыходзіўся вялікім парадам Дзень Воя. У парадзе прынялі ўдзел матросы 19 баявых караблёў НАТО, што прыплылі сюды з нагоды Інтэрнацыянальнага Году й адкрыцьця марскога шляху Сьв. Ляўрэнта. Парад прыймаў шэф Штабу Абароны Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі адмірал Флёты лёрд Маунтбэттэн, які прыбыў сюды на адкрыцьцё Выстаўкі. Сярод 12 тысяч вэтэранаў Арміі, Флёту й Авіяцыі праходзілі таксама са сваімі нацыянальнымі сьцягамі й вэтэраны этнічных групаў, у тым ліку й ад Беларусаў.

**А. -віч**



**Удзельнікі Параду Вэтэранаў 28 жніўня ў Таронто ад этнічных групаў. На пярэднім пляне сп. Б. Кірка зь Беларускім Сьцягам.**

### АЙЦЕЦ ФРАНЦІШАК ЧАРНЯЎСКІ Ў ТАРОНТО

Як мінулым летам, у гэтым годзе ў днях 21-23 жніўня вельмі чаканым госьцем Беларускай калёніі ў Таронто быў а. Францішак Чарняўскі, куды ён завітаў падарозе з Мантрэалю. У нядзелю 23 жніўня а. Францішак адправіў Сьв. Імшу ў Летувіскім касьцёле Сьв. Яна Хрэсьціцеля, на якой прысутнічала шмат Беларусаў як каталікоў, так і праваслаўных. Пасьля Божае Службы Арганізатарскім Камітэтам быў зладжаны супольны пачастунак у хаце аднаго із Беларусаў-каталікоў. Перад ад'ездам у ЗША а. Францішак адведаў таксама Беларусаў Бэры й Лёндану.

**А. -віч**

## „13 дзён..."

**(Заканчэньне з 3-яе бачыны)**

танкамі, каб правесьці эвакуацыю хворых і раненых і вывесьці сем'і афіцэраў і жаўнераў.

Пасол утойваў праўду. Каля паўдня Андропаў перадаў Надзю адказ з Масквы. Адказ быў такі. Дэклярацыя з 13-га кастрычніка застаецца ў сіле. Вугорскі ўрад павінен прызначыць камісію дзеля абмеркаваньня палітычных праблемаў, якія вынікаюць з прычыны скасаваньня Варшаўскай умовы, і другую камісію дзеля перамоваў адносна вайсковых і тэхнічных пытаньняў, зьвязаных з вывадам савецкага войска з Вугоршчыны.

Надзь зноў запытаўся ў Андропава: — А як-жа з урачыстым абяцаньнем ня ўводзіць новага войска ў Вугоршчыну? На гэтае найважнейшае пытаньне Андропаў ня мог даць адказу».

У сваёй кнізе «13 дзён, якія ўстрэсьлі Крэмль» у разьдзеле «Пастанова Масквы» Тыбор Мэраі ставіць пытаньне: Чаму савецкі ўрад стаў на шлях ваеннай інтэрвэнцыі і адмовіўся ад апавешчаных дэклярацыяў 30-га кастрычніка прынцыпаў неўмяшаньня ува ўнутраныя справы? На гэтае пытаньне Тыбор Мэраі адказвае:

«У мамэнт, калі заваёвы рэвалюцыі былі замацаваныя і калі ўзрасло жаданьне бараніць сацыялістычныя асновы вугорскага жыцьця, савецкае войска ўварвалася ў краіну, каб здушыць рэвалюцыю, быццам-бы ў імя гэтых-жа самых сацыялістычных ідэалаў. Гэтак-жа, як 10 год таму, калі справа ішла аб Югаславіі, Масква відаць не магла паверыць, што хто-небудзь здолее пабудаваць сацыялістычную дзяржаву без дапамогі Крамля. Ці можа наадварот, Масква спалохалася менавіта таму, што гэтым разам паверыла ў магчымасьць гэтага?»

У апошніх разьдзелах свае кнігі Тыбор Мэраі апісвае, як Імрэ Надзя выклікалі зь югаслаўскага пасольства ілжывымі абяцаньнямі недатыкальнасьці, як Надзь быў адразу арыштаваны савецкімі афіцэрамі і пазьней быў расстраляны.

### «ВЯНОК» МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Ужо друкуецца й хутка выйдзе асобнай кніжкай поўны збор паэтычнай творчасьці клясыка беларускае літаратуры Максіма Багдановіча пад загалоўкам «Вянок літаратурнай спадчыны». Тэксты твораў Багдановіча будуць папярэджаныя двумя ўводнымі артыкуламі Д-ра Ст. Станкевіча й праф. Ант. Адамовіча. Каляровую вокладку для кнігі прыгатаўляе мастак Міхась Наўмовіч.

## ВЕРА РЫЧ

Вера РЫЧ жыве ў ЛЁНДАНЕ. Ёй 22 гады. Гэта вельмі здольная і працавітая дзяўчына. Не зважаючы на малады век, яна нязвычайна добра азнаёмленая з эўрапэйскаю літаратураю. Яна вучылася ў унівэрсытэце ОКСФАРДЗЕ, а цяпер, з прычыны ня зусім добрага здароўя, вучыцца ў ЛЁНДАНЕ, бліжэй каля дому. Вера РЫЧ, апрача дасканалага валоданьня ангельскай мовай ведае мовы: беларускую, грэцкую, расейскую, украінскую, ісьляндзкую і стараангельскую. Беларускі літаратуравед прафэсар Антон АДАМОВІЧ нядаўня, на паваротнай дарозе з ЭЎРОПЫ ў АМЭРЫКУ, наведаў у ЛЁНДАНЕ маладую паэтку, пазнаёміўся бліжэй зь ейнай працай і паглядамі.

Вера РЫЧ кажа пра сябе, што яна «беларуска праз адаптацыю». Праўдзівасьць свае заявы яна ахвярна і шчодра даводзіць учынкамі ў галіне беларускае грамадзкае працы, а асабліва на ніве літаратурнай. Маладая ангелька любіць беларускую мову й літаратуру ды шмат працуе каб узбагаціць у тым свае веды. Ёй асабліва прыпаў да душы Коласаў «СЫМОН МУЗЫКА». Яна дакладна вывучыла паэму і робіць цяпер пераклад яе ў ангельскую мову. Пераклала яна таксама і колькі Купалавых вершаў. Адзін зь іх — «Брату на чужыне» быў паказаны на беларускай выстаўцы ў лёнданскім Унівэрсытэце, якую памагала арганізаваць і сама паэтка ў лютым сёлета. Вера РЫЧ займаецца ня толькі перакладамі зь беларускае мовы. Яна таксама творыць на беларускія тэмы. Вельмі прыгожыя вершы Веры РЫЧ «На ўгодкі Слуцкага паўстаньня» і акраверш «Беларусь». Прафэсар Адамовіч уважаў Веру РЫЧ за таленавітую паэтку і вельмі здольную перакладніцу беларускае паэзіі. Асоба маладое літаратаркі — гэта каштоўная знаходка для беларускае літаратуры.

Вера РЫЧ трымае шырокія сувязі зь беларускімі арганізацыямі ЛЁНДАНУ. Яна бярэ актыўны ўдзел у беларускіх культурных і нацыянальных урачыстасьцях, шмат памагае арганізацыям у працы, асабліва сваімі ведамі ангельскай мовы. Вера РЫЧ пляную цяпер паехаць у НЯМЕЧЧЫНУ, каб у МЮНХЭНЕ наведаць беларускае выдавецтва «БАЦЬКАЎШЧЫНА» пазнаёміцца там зь беларускімі культурнымі і навуковымі працаўнікамі.

Ніжэй зьмяшчаем верш Веры РЫЧ у беларускім перакладзе:

### ПЕСЬНЯ

Ляжы ў сьцішы, душа, бадай — зусім маўчы,
А толькі дыхай мірна.
Тут, у сядравым санцаплеску ветру й граньня,
Тут, у зялёным цэдзе шчэбету празь ліпы,
Дзе зьзянь вады пярэсьціць сьцені сонцайскрамі,
Ляжы ў сьцішы, душа, бадай — зусім маўчы.

Ляжы ў сьцішы, душа, бо то-ж расьце навала
І мшыстасьць у крыві.
Паўзе зялёна лісьць пухнатымі вусьнямі,
Паветра прозру тчэ мяжджынамі дыхкімі;
Ляжы ў сьцішы, душа, бадай — зусім маўчы.

Ляжы ў сьцішы, ў бялі, душа, і золаць пі,
Што цэдзіцца на нас.
Пакуль, далёка далавах, бунтуе ў глебе рошча,
Тнуць птушкі ў гушчарох, лісьць кропліць клекую расу, —
Ты тут, між халадку і сонцавейных косаў,
Ляжы ў сьцішы, душа, бадай — зусім маўчы.

Ляжы ў сьцішы, душа, бадай — маўчы зусім,
А сэрца слухай.
Абвітыя ў цяжкі даждовы водар пушчаў,
Вяслуючы на ветравых плячох шырокіх,
Жывом, пакуль у памяць думка засынае.
Ляжы ў сьцішы, душа, бадай — зусім маўчы.

*Фэльетон*

## Дзе канкрэтны „віноўнік"

Галоўнае, дарагія грамадзяне, не хвалявацца. Гэта тычыцца перш за ўсё тых нашых слухачоў, што атрымалі нядаўна новыя кватэры. Калі-ж у тых кватэрах няма, скажам, электрыкі, дык таксама няма чым праймацца — не адразу камунізм будуецца. А не хваляваецца заклікаю вас таму, што хачу спыніцца на вельмі-ж далікатнай тэме — на жыльлёвым будаўніцтве. У гэтай галіне справа выглядае ў нас вось як:
«Бракаробства — несумяшчальнае з практыкай нашага сацыялістычнага будаўніцтва».

Бязумоўна, знойдуцца злосныя языкі, якія скажуць, што бракаробства і сацыялістычнае будаўніцтва вельмі-ж і вельмі сумяшчальныя, а навет — што гэта адно і тое-ж. На гэта мы можам толькі адказаць: Таварышы! Ад вас так і нясе нігілізмам і розным іншым рэвізіянізмам! Вы пад уплывам буджуазнай прапаганды! Такім поглядам няма месца ў нашым сацыялістычным грамадзтве!

Думаю, што перад такімі пераканальнымі доказамі ня ўстояць навет найбольшыя скептыкі. Да гэтага яшчэ дадам, што тэзіс аб несумяшчальнасьці бракаробства і сацыялістычнага будаўніцтва высунуў ня я, а таварыш Тарасаў — загадчык аддзелу будаўніцтва і гарадзкой гаспадаркі ЦК КПБ. А гэты-ж — выбачце за выраз — загбудгаргас — павінен лепш ведаць, чымся мы з вамі.

Каб разьвеяць апошнія рэшткі сумліву раім вам узяць «Советскую Белоруссію» зь 17-га жнівеня і пачытаць там артыкул таго самага Тарасава. У пацьверджаньня свайго тэзісу ён падае і лікі. «Дастаткова сказаць, — піша ён, — што ў 1958 годзе з ацэнай «добра» ў гарадох рэспублікі было здадзена ў эксплëатацыю 63,2 працэнты жыльлёвых дамоў...» Якую ацэну атрымалі астатнія 36,8 працэнты, Тарасаў — хіба па сваёй сьціпласьці — ня кажа. Ды ня будзем чапляцца да дробязяў: кожнаму ясна, што ўва умовах камуністычнага будаўніцтва 37 працэнтаў браку — гэта тое самае, што нічога. Як кажуць, дзе дровы сякуць, там калоды, выбачце трэскі ляцяць.

Але вось, дарагія слухачы, дасталі вы новую кватэру ў доме, што атрымаў ацэну «добра». І хоць, як піша Тарасаў, «радасьць навасельля азмрочваецца недаробкамі», як, прыкладам, нястача каналізацыі, электрычнасьці ці тым фактам, што кватэры ўнутры яшчэ наагул непамаляваныя, — вы ўсё-ткі адчуваеце сябе шчасьлівым і пастанавілі ўходзіны належна адсьвяткаваць. З гэтай мэтай, акрамя гарэлкі, вы купілі бутэльку каўкаскага шыпучага — каб і суседзі чулі, што ў вас навасельле.

Ш-пок! — вы праціраеце вочы увесь тынк са столі абсыпаўся. Лаяцца няма чаго: папершае, ня трэба было купляць шыпучага, падругое — усяроўна за месяц тынк абсыпаўся-б, а патрэйцяе — будзьце рады, што ня трэснула сьцяна. Ці няпраўда, таварыш Тарасаў?

У сваім артыкуле вы сурова заяўляеце: «За кожным фактам бракаробства стаіць канкрэтны віноўнік». Залатыя словы — і Ленін лепш не сказаў-бы. Толькі вось хто гэты віноўнік? Вы-ж самі кажаце, што брак на будоўлі выклікаюць і «памылкі ў чарцяжох, і дрэнная якасьць матарыялаў, дэталяў і канструкцыяў» і гэтак далей. Адкуль усё гэта бярэцца? І як-жа знайсьці канкрэтнага віноўніка? А ён-жа існуе...

Бязумоўнае, што ў параўнаньні з будаўніцтвам камунізму, жыльлёвае будаўніцтва — гэта нявартая ўвагі дробязь. Але вось у душу закрадаецца сумліў: а што калі й з будаўніцтвам камунізму будзе падобная справа? Якую ацэну дасьць гэтай будоўлі наш народ? А ён, калі да гэтага прыйдзе, канкрэтнага вінаватага знойдзе хутка...

А пакуль што, дарагія чытачы, калі ў новай кватэры кавалак тынку наб'е вам гуза, дык не хвалюйцеся. Падыходзьце да справы з пункту гледжаньня дыялектычнага матарыялізму і прыгадайце выснаў загбудгаргаса Тарасава: «Бракаробства несумяшчальнае з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва»...

**Архіп Паплíска**



## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec**, 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France**, 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**